Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 16 Вільня, Субота 28-га траўня 1927 г. Год I

# БЕЛАРУСЫ МЕСТА ВІЛЬНІ!

Гатуйцеся да выбарау у мястовую раду. Тлумачце сваім сябром і знаёмым, што беларускія работнікі і працоуная інтэлігенцыя йдудь пад сьцягам **Работніцкага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту Сацыялістычных Партыяу і Прафэсыянальных Саюзау**, у склад якога увайшоу і наш **Белар. Выбарны Камітэт.**

## Дыфэрэнцыяцыя.

У меру таго, як беларускі рух расьце і прымае ўсё больш масавы характар, у ім бачым што-раз больш выразны падзел на паасобныя кірункі і цячэньні.

Перадусім трэба тут супыніцца на ведамым падзеле Беларускага Пасольскага Клюбу ў Сойме. Ужо тады выявілася з поўнай ачывістасьцяй, што сярод нашых паслоў ёсьць дзьве зусім розныя групы: з аднаго боку на арэну выступілі прадстаўнікі сялянска-работніцкае ідэалёгіі якія рашуча пайшлі па шляху змаганьня з пануючай буржуазіяй, ідучы поплеч з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяў Польшчы; з другога боку—група хадэкаў і сельсаюзьнікаў, якая маніцца разьвязаць беларускае пытаньне, трымаючыся за хвост буржуазіі, выпрашываючы ў яе розныя дробныя падачкі, падаючы ўладам нейкія тайныя мэмарыялы, ды стараючыся ўсыпіць масы, каб ня шукалі—паміма сваіх „павадыроў“ — выхаду з утварыўшагася цяжкога палажэньня шляхам масавае арганізацыі сваіх сілаў ды злучэньня з міжнародавым вызвольным рухам працоўных.

Лёс першае групы аказаўся дужа сумным: блізу ўсе сялянска-работніцкія паслы апынуліся за вастрожнымі кратамі.... Наадварот, хадэкі і сельсаюзьнікі, як прадстаўнікі зусім няшкоднага, а мо' навет і карыснага для буржуазіі кірунку, атрымалі ад улады асаблівую „манаполію“: манаполію на незалежніцкую ідэю. І сёлетняе сьвяткаваньне ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі поўнасьцяй выявіла, якім прывілеем надзяліла іх дэфэнзыва: пад той час, як радыкальныя беларускія газэты — прадстаўніцы сялянска-работніцкае ідэалёгіі—канфіскаваліся за самае ўпамінаньне аб незалежніцкім сьвяце, — хадэкі і сельсаюзьнікі атрымалі дазвол уладзіць „урачыстую акадэмію“ і банкет, а афіцыяльныя прадстаўнікі ўрадавае ўлады папрысылалі ім свае павіншаваньні з прычыны нацыянальнага сьвята....

Асаблівым прывілеем карыстаецца сельсаюзьніцкая прэса і ў другой галіне: ў галіне аказваньня помачы палітычным вязьням. За самае зьмяшчаньне справаздачаў аб прысыланых ахвярах для палітычных вязьняў газэта сялянска-работніцкага кірунку была сканфіскавана. А сьледам за гэтым у органе „Сялянскага Саюзу“, „Сялянскай Ніве“, пачалі зьяўляцца заклікі да прысылкі ў рэдакцыю гэнае газэты ахвяр для тых-жа вязьняў. Ці адміністрацыя, даючы сельсаюзьніцкай газэце гэтую новую „манаполію“, хацела дапамагчы сельсаюзьнікам у здабываньні спогаду і прыхільнасьці народных масаў, ці йшло проста аб выяўленьне людзей, якія займаюцца такой „праступнай“ работай, як помач палітычным вязьням, — мы ня ведаем. Ня ведалі, пэўне-ж, і ахвярадаўцы, але й яны, відаць, убачылі ў гэтым нешта нячыстае, бо паквітаваньняў на прысыланыя ахвяры мы ў „Сялянскай Ніве“ дагэтуль ня бачым... Хіба мо' „зьявяцца“ — пасьля гэтае нашае стацьці!

Якія яшчэ прывілеі атрымалі ў Польскай Рэспубліцы прадстаўнікі беларускае буржуазнае ідэалёгіі, — мы ня ведаем. Калі яны і ёсьць, дык хіба толькі для хадэцка-сельсаюзьніцкіх павадыроў—асабіста! Але сваей дзеяльнасьцяй прадстаўнікі гэнае ідэалёгіі даказалі, што зусім заслугуюць на ласку „власть имущих“. Ня кажучы ўжо аб чысьленых ілжывых даносах сельсаюзьніцкае і хадэцкае прэсы на нямілых ей дзеячоў другога напрамку, ня кажучы аб абліваньні гразёй тварцоў усяго беларускага адраджэнскага руху, мы адзначым ролю беларускіх буржуазных ідэалёгаў у сучаснай выбарнай акцыі ў Вільні.

Як мы паведамлялі, беларускія работнікі і працоўная інтэлігенцыя места Вільні ўтварылі свой Беларускі Выбарны Камітэт, які аб'яднаўся з польскімі і жыдоўскімі левымі работніцкімі партыямі, каб ісьці разам на выбарах у новую мястовую раду. На супольным сьпіску блёку беларусаў з Незалежнымі Сацыялістамі, лявіцай ППС, жыдоўскімі эсэрамі, лявіцай Поалей-Цыону і прафсаюзамі — беларусам забясьпечана прадстаўніцтва на такім месцы, якое дае пэўнасьць правядзеньня ў мястовую раду раднага беларуса.—І вось сельсаюзьнікі, якія, называючы сябе арганізацыяй сялянства, сьпярша выракаліся ўсялякае супольнасьці з мястовымі работнікамі, падбураючы проці іх, як „ворагаў“, беларускіх сялян,—пастанавілі распачаць акцыю іменна ў месьце—з мэтай разьбіць беларускія галасы, ды хоць частку іх адарваць ад работніцкага аб'яднаньня. З гэтай мэтай тыя самыя людзі, якія так рашуча асуджалі сваіх ідэйных праціўнікаў, якія нібы-то пайшлі „пад каманду чырвонае Масквы“,—зсябраваліся акурат... з расейцамі, дый ня з „чырвонымі“, а — калі ня „чорнымі“, то—„белымі“, з тымі расейцамі, што нядаўна ў Львове на зьезьдзе сваім засуджалі на сьмерць беларускі народ! Яны ўтварылі *„расейска-беларускі“* выбарны камітэт, у які ўвайшоў пасол Ярэміч, ягоны супрацоўнік Більдзюкевіч, хадэк, многалетні рэдактар „Беларускае Крыніцы“, Туронак, некалькі расейцаў, ды сэнатар Багдановіч, роўна блізкі і адным і другім, як праваслаўны царкоўны дзеяч. Ведама-ж, ні на адзін мандат гэны сьпісак галасоў не набярэ: беларускія работнікі Вільні пэўне-ж зусім ня будуць за яго галасаваць. Але спасярод беларускае інтэлігенцыі ды нячысьленага мяшчанства дзе-які голас можа й урвуць гэныя разьбівальнікі беларускіх сіл. І хаця ў часе выбараў, ведама-ж, часамі і некалькі дзесяткоў галасоў маюць сваю цану, але пранамся пабачым, якую сілу і вагу ў сталіцы Заходняе Беларусі маюць прадстаўнікі буржуазнае ідэалёгіі сярод беларусаў.....

Жыцьцё і рэальныя факты ўсё больш і больш выяўляюць запраўдныя настроі і імкненьні беларускіх масаў пад Польшчай. І гэтыя настроі яўна асуджаюць ухіленьне часткі беларускіх паслоў у бок буржуазіі. Вынікі блізкіх ужо выбараў у віленскі мястовы самаўрад дадуць хіба-ж даволі красамоўны доказ гэтага.

# Паміналньне Максіма Багдановіча.

Сягоньня Заходняя Беларусь памінае вялікага беларускага песьняра, Максіма Багдановіча, які памёр дзесяць гадоў назад, 25 мая 1917 году. Памянем-жа яго і мы — добрым словам.

Добрым — бо-ж запраўды добра заслужыўся Максім Багдановіч сваймy гаротнаму народу. Ня слава палітыка, а слава паэта выпала на долю ягоную, — але тое, што ён пакінуў па сабе, мо' мае большую цану, чым праца палітыкаў і іншых грамадзкіх дзеячоў.

Максім Багдановіч **красу** нёс у беларускае жыцьцё. І ў гэтым—ягоная служба роднаму народу.



Максім Багдановіч.

Былі і перад і пасьля Багдановіча паэты мо' й вялікшыя за яго. Былі і Колас, і Купала, і іншыя. Але ўсе яны тварылі і творацъ перш за ўсё затым, што маюць вялізарны талент, падараваны ім прыродай, што маюць у сабе лішку творчых сіл, што патрабуюць выліць у нейкіх відочных формах тое, чым перапоўнена іх душа. Іх творства—больш стыхійнае, у пэўнай меры незалежнае ад іх волі. І тое, што яны твораць **красу**, вынік ня гэтулькі іх сьвядомага імкненьня, скольки патрэбы, скольки мусу. Творства іх — радаснае, творства іх — аблягчэньне, вызваленьне душы ад нахлынуўшых пачуцьцяў і настраеньняў.

Максім Багдановіч ня меў такога дару ад прыроды, як другія — больш шчасьлівыя за яго песьняры. Талент ягоны быў ня стыхійны, а разьвіты, распрацаваны яго ўласным упорлівым трудом, а мэтай яго было сьвядомае тварэньне **красы**, сьвядомае выкрасаньне тэй „іскры божае“, што ўтоена была ў ягонай душы. У гэтым бачыў пясьняр наш сваё назначэньне. Творствам сваім хацеў ён прыхарошыць беспатольнае жыцьцё беларуса. І—магутнай сілай творчага выабражэньня — даў запраўдныя-ж пэрлы **красы** **і хараства** даў нам багаты **„спажытак дзеля душы“**.

Народ, які мае такіх тварцоў **красы**, напэўна ўжо нанова не замрэ, бо-ж твораная нашымі песьнярамі **краса** — няўміручая, несьмяротная. Яна дае народу—**„жыцьцё вечнае“** на зямлі.

Дый тая **краса**, якую тварыў Багдановіч, — асаблівая: яна мае агульналюдзкую вагу. Перакладаць яе можна на ўсе мовы сьвету, і да кожнага народу яна будзе прамаўляць з роўнай сілай, як прамаўляе да нас. Зьмест яе—агульналюдзкі, як агульналюдзкім зьяўляецца імкненьне да **красы** наагул, шчырае служэньне ей. У ім выявілася ўсё найбольш людзкае, вечнае, непераходнае, што ў сваім народзе выкрыў паэт. І можна сьмела сказаць, што ў творстве Багдановіча беларусы знайшлі той язык, якім могуць гаварыць з усімі народамі сьвету.

## Памяці М. Багдановіча.

Там, ў чужой старане, на ўзьбярэжжы крутым  
Ты ляжыш, наш пясьняр, пахаваны...  
Голас заклiку змоўк, толькі рэха аб тым  
Жыве песьняй нам мілай, жаданай.  
Сілы, шчасьце жыцьця цябе здрадзілі, брат!  
Згас каханьня запал да старонкі,  
Дзе бяздольле жыцьця, суму горкага чад  
Ты спазнаў, палюбіў,—дзе пад звонкі  
Сьпеў вясной салаўя у вячэрнай цішы,  
Пад той гоман таёмнасны гаю  
Скаргай песьня лілась з твае чулай душы  
Аб цямноце радзімага краю...  
Хоць юнацкія дні на чужыне правёў, —  
Душа змалку твая ужо ные,  
І гаворыць, кіпіць ў табе родная кроў,  
Будзіць ў сэрцы пачуцьці сьвятыя.  
Ты імкнуўся, ляцеў думкай яснай туды —  
У той край паднявольны, бядацкі,  
Дзе у поруч з красой родных гоняў—з нуды  
Выглядаў лёс старонкі жабрацкі.  
Так ляцела далей віхрам буйным жыцьцё!  
Твайго сэрца збыліся жаданьні:  
Ты убачыў свой край і з сьвятым пачуцьцём  
Вітаў сьвет ў душы новага раньня.  
Ды ня доўга красой явар цьвіў малады  
На прасторы радзімага поля...  
Без пары ты загас, сіл юнацкіх гады  
Сярод шляху скасіла нядоля!  
У чужой старане, на ўзьбярэжжы крутым  
Ты ляжыш, наш пясьняр, пахаваны.  
Голас заклiку змоўк, толькі рэха аб тым  
Жыве песьняй нам мілай, жаданай.  
Й не памрэ яна век: ў беларускай душы  
Гарэць будзе агнём Прамэтэя,  
Будзе зоркай зіяць з паднябеснай вышы,  
Як тых дзён сьветазарных надзея!

**М. Васілёк.**

Творства Багдановіча зьяўляецца для нас асабліва цэнным яшчэ і затым, што яно ня можа пастарэць, ня можа адстаць ад жыцьця: яно—істота жыцьця, незалежна ад мінаючых форм і праяваў гэтага жыцьця. І затым-то сягоньня, цераз дзесяць гадоў пасьля сьмерці песьняра, творы яго такія-ж сьвежыя, таксама прамаўляюць да нашае душы, таксама захопліваюць яе, як і тады, калі жыў і тварыў паэт.

Памянем-жа яго добрым словам і мы — разам з усім беларускім народам. Справім урачыстае памінаньне яму, чытаючы творы паэта і знаёмячы з імі — масы.

Сягоньня, у суботу, 28 мая, у Вільні ў памяшчэньні Цэнтральнага Гуртка Т-ва Беларускае Школы (вул. сьв. Анны 2) адбудзецца вечар, пасьвячоны памяці Максіма Багдановіча. Будуць прачытаны два рэфэраты аб творчасьці паэта, а пасьля адбудзецца дэклямацыя ягоных твораў і пяяньне солявых і харавых песень на словы Максіма Багдановіча.

Такое ж памінаньне спраўляюць у гэты дзень гурткі Т-ва Беларускае Школы на правінцыі.

## Жыцьцё Максіма Багдановіча.

Бацька поэта, вучыцель Аляксандар Багдановіч, даволі вядомы ў маскоўскай літэратуры этнограф, быў родам з Горадзеншчыны. Калі Максіму ішоў усяго другі год, Багдановічы пераехалі адтуль у Ніжні-Ноўгарад, дзе бацька дастаў пасаду ў гімназіі. Там поэт і вырас. Бацькі яго гаварылі па-маскоўску, але шчыра любілі родны край і любілі ўспамінаць аб жыцьці-быцьці на Беларусі. Наслухаўся тых гутарак Максім і змалку пачаў лятуцець аб далёкай і любай зямельцы сваіх дзядоў. Падросшы, ён з прагавітасьцю чытаў усякую кніжку, дзе было напісана што-небудзь пра Беларусь. Быўшы ў старэйшых клясах гімназіі, поэт дастаў беларускую кніжку і даведаўся, што выходзіць беларуская газэта. У кароткі час тэорыятычна выўчыўся ён гаварыць і пісаць пабеларуску, сьпісаўся з „Нашаю Ніваю“ і пачаў пасылаць допісы і вершы. Рэдакцыя газэты адразу пачула ў ім нямалы поэтычны

